ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 87 (1724) | Аўторак, 30 кастрычніка 1962 года | Цана 4 кап.

У ГЭТЫМ НУМАРЫ



Да дзён знамянальных

## З вялікім уздымам

— Як рыхтуюцца да свята Вялікага Кастрычніка тэатральныя і канцэртныя калектывы рэспублікі? — такое пытанне задаюць многія чытачы нашай газеты. Адказаць на яго мы папрасілі дырэктараў тэатраў, галоўных рэжысёраў.

Нам паведамілі: амаль усе творчыя калектывы рэспублікі з вялікім уздымам працуюць над новымі спектаклямі. Большасць з іх прысвечана сённяшняму жыццю савецкага чалавека, мужнай барацьбе працоўных за мір і шчасце людзей.

У дні свята калектывы пакажуць гледачам свае лепшыя спектаклі. У Тэатры оперы і балета намечаны вялікія канцэрты, у якіх прымуць удзел майстры опернай і балетнай сцэны. У Тэатры імя Я. Купалы будзе ісці спектакль «Паўночная мадонна», у Рускім драматычным тэатры імя М. Горкага — спектакль «Галоўная стаўка» К. Губарэвіча.

Галоўны рэжысёр Бабруйскага драматычнага тэатра А. Аркадзьеў паведаміў, што днямі калектыў пакажа новую работу — аперэту «Вяселле ў Малінаўцы» Л. Юхвіда. З гэтым спектаклем у лістападзе артысты пабываюць у гарадах і раённых цэнтрах Магілёўшчыны.

«Марынка-крапіўніца» — так называецца новы спектакль па п'есе А. Вольскага і П. Макаля, які пакажа днямі Беларускі дзяржаўны тэатр лялек.

Некалькі эстрадных брыгад Дзяржаўнай філармоніі выязджаюць у раённыя цэнтры рэспублікі і пакажуць там канцэрты, складзеныя па новай праграме.

Спектаклі і вялікія канцэрты дадуць артысты Тэатра імя Я. Коласа, Брэсцкага, Гродзенскага, Магілёўскага і іншых абласных тэатраў.

## Экспануецца 350 твораў

У Віцебску адкрылася выстаўка работ самадзейных мастакоў вобласці, прысвечаная 45-гадавіне Вялікага Кастрычніка. Экспануецца каля 350 твораў жывапісу, графікі і мастацтва.

## МЕСЯЧНІК КНІГІ

З 9 кастрычніка па 9 лістапада гэтага года ў Пінску праводзіцца камсамольска-маладзёжны месячнік распаўсюджання кнігі, прысвечаны 45-й гадавіне Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. На заводах, фабрыках, камбінатах, ва ўстановах арганізаваны «народныя кіёскі кнігі».

Паспяхова распаўсюджваюць кнігі каваль дарожных майстэрань А. Літвінчук, работнікі фабрыкі імя Крупскай М. Якуціч і Л. Лунёва, навучэнцы вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі № 28 П. Прапішч, А. Куцько, Ю. Тараіда і інш.

М. БАГДАНАЎ.

Пісьменнік і час

# НА АРБІТУ ЭПОХІ!

Барыс БУР'ЯН

МАГЧЫМА, мне толькі так здаецца, але сярод усіх мастацкіх твораў самыя ваяўнічыя і дзейсныя ўсё ж—творы літаратурныя.

Славуты помнік Пятру Вялікаму на беразе Нявы з яе «державным течением» вельмі яркі і непараўнальна прыгожы. Ён узрушае і захапляе. Абуджае ўспаміны пра мінулае.

«Медны коннік» А. Пушкіна таксама гаворыць пра Пятра Вялікага, але куды больш усхвалявана. Ты пачынаеш і сам спрачацца з гэтым усемагутным царом, якога паэт уладарна здымае з п'едэстала і пасылае наўздагон звычайнаму чалавеку, нешта абараняць ад ягонай няўмольнай хады, у нечым з ім пагаджацца. Дзяржава і асоба; гістарычны лёс і доля аднаго з мільёнаў людзей; бязлітаснае свавольства стыхіі і не менш бязлітасны прысуд, які выносіць краіне пануючая абсалютная ўлада. Тут ужо не толькі мінулае, але і надзённае. Гэтыя, амаль што спрадвечныя пытанні, узнятыя паэтам больш за сто гадоў, узбагачаюць і вучаць нас глыбей разумець сучасныя з'явы.

Ці ж няма, мяркуйце самі, нечага вельмі агульнага ў светаадчуванні былога маёра ўзброеных сіл Злучаных Штатаў Амерыкі Клода Роберта Ізерлі, які ў жніўні 1945 года загадаў самалёту з атамнай бомбай выйсці на цэль, назва якой цяпер узрушае сэрцы ўсіх сумленных людзей нашай планеты,—гэта Хірасіма,—з тым, што перажывае на вуліцах Пецярбурга «бедны Яўгеній», калі чуе за сабою цокат медных капытоў! Мабыць, зусім верагодна дапусціць, што гэтаму «звычайнаму» янкі, у якім абудзілася сумленне, не даюць спакойна спаць і вогненны смерч у кварталах палаючага японскага горада, і трывожна-пільнае святло паходні, узнятай у сціснутай жалезнай руцэ статуі Свабоды!..

Гэта—толькі адна з думак, якія ўзнікаюць у нас, калі мы яшчэ і яшчэ раз перачытваем радкі пушкінскай паэмы.

А раман «Разгром» А. Фадзеева—твор пра грамадзянскую вайну ў Расіі,—аказваецца, патрэбны ўсім і ў сучасных умовах. Бо духоўнае развіццё чалавека, які пачынае разумець, што ён—асоба, ад якой залежыць і ўласны лёс, і агульны шлях чалавецтва да будучыні, — гэта ж да таго надзённае! У большай ці меншай ступені, але шмат хто з нас, дзе б ён ні быў і чым бы ні займаўся, можа заўважыць у сваім светаўспрыняцці і ў тым, як паводзяць сябе людзі навокал, нешта ад Мечыка і нешта ад Левінсона.

«Усё, аб чым думаў Мечык, было не сапраўднае, а такое, якім ён хацеў бы ўсё бачыць». Вось ён, характар, вось яно, філасофскае крэда паверхоўнага летуценніка і эгаіста, які, вядома, не можа вытрымаць усіх выпрабаванняў жыцця і рэвалюцыйнай барацьбы. Ён будзе вагацца, пакутваць, не спыніцца перад ренегацтвам і здрадай.

Гэта, як мне здаецца, досыць надзённа. І зараз ёсць людзі, якія ўпарта і фанатычна хочуць бачыць свет і грамадства такімі, якімі яны ім уяўляюцца ў летуценнях, пазбаўленых жыццёвага грунту.

А Левінсон прыйшоў,—чытаем у рамане,—«вось да якой самай простай і самай нялёгкай мудрасці»: бачыць усё такім, якое яно ёсць на самой справе, адчуваць развіццё і разумець галоўны кірунак развіцця свету і грамадства, каб самому ўздзейнічаць на пераўтварэнне жыцця.

Хто можа сцвярджаць, быццам у наш час няма патрэбы чалавеку адважна ісці насустрач такой мудрасці! XX і XXII з'езды Камуністычнай партыі і падзеі, якія адбываліся пасля, далі прыклады такіх вось двух падыходаў з боку розных людзей да жывой практыкі рэвалюцыйнага развіцця. Перамог той пачатак, якім кіраваліся сапраўдныя ленінцы, бо яны ведалі нялёгкую мудрасць рэальнага жыцця.

ВІДАЦЬ, я выказваю свае меркаванні занадта катэгарычна. Але ўспомніце свае ўласныя характарыстыкі і заўвагі знаёмых пра кнігі вершаў, пра раманы і апавяданні. Сцвярджаю ўпэўнена: тут амаль заўсёды гутарка ідзе ў першую чаргу пра тое, што паказаў пісьменнік, і гэтае «што» вызначаецца кароткімі словамі, дзеля якіх кожны літаратар і чакае сустрэчы з чытачом: **праўда** або **няпраўда**. Пра «як» пачынаецца размова пасля. Тады мы чуем нешта накшталт—«праўдзівая, але сумная аповесць», «бліскучая па стылю, але занадта ўзнёслая, нежыццёвая паэма» і г. д.

Чытач чакае ад пісьменніка перш за ўсё праўды пра навакольнае жыццё і ўспрымае як асабістую абразу надакучлівыя тлумачэнні агульнавядомых ісцін і танныя ілюстрацыі да пэўных афіцыйных дакументаў і **ўвогуле правільных** высноў. Ён шукае на кніжных старонках сучаснага асэнсавання і нашага сённяшняга жыцця, і мінулага. Яму патрэбны такія творы-субяседнікі, пра якія адразу ж пасля знаёмства з імі можна сказаць — **праўдзівыя.** Калі здаецца нібыта ўсё гэта табою самім убачана і перажыта, толькі лепш за цябе выказана ў слове-вобразе, тады ідэі і пачуцці субяседніка робяцца тваім уласным вопытам.

Надзённае ў літаратуры, як зерне будучых дрэў у яблыку,—у асяродку тэмы і праблемы. Самыя «сучасныя» па фармальных адзнаках вершаваныя збудаванні і да тэлеграфнай лаканічнасці «ёмістыя» замалёўкі ў прозе часцей за ўсё, на жаль, бываюць данінай модзе. І калі ўжо мне будзе дазволена крыху «папарадокснічаць», дык я падкрэслю некаторыя словы А. Чэхава, чыім імем нярэдка размахваюць, як сцягам, прыхільнікі так званага «сучаснага стылю». Ён казаў: «Кароткасць—**сястра** таленту». У нас жа, бывае, менавіта «сястру» абвяшчаюць галоўнай у творы—як быццам у эру ТУ-114 і тэлебачання асноўным клопатам пісьменніка павінен быць памер кнігі. І спасылаюцца на тое, што ў выбары тэм і праблем, маўляў, хто ж цяпер памыляецца! Аднойчы І. Бунін пачуў наступнае чэхаўскае выказванне, відаць, наконт усё той жа ўяўнай «сучаснасці-моды» ў літаратуры: «Памятаю, у Таганрозе я бачыў шыльду «Заведение **искустевных** минеральных вод». Вось і гэта тое самае. Новае толькі тое, што таленавіта. Што таленавіта, тое новае».

Гэтая выснова, на маю думку, прарочая. Сапраўды, давайце прыгадаем усе выпадкі, калі нам даводзілася чуць пра кнігу—«праўдзівая!» Хоць аднойчы так сказалі пра твор, пазбаўлены прымет таленавітасці аўтара? Ёсць ракеты, створаныя па прынцыпу дзеяння «зямля—неба—зямля». Відаць, і мастацкі твор можа тады мець шанцы на поспех, калі ён ствараецца па прынцыпу «талент — праўда — наватарства».

Талент—гэта не тое самае, што набор рамесніцкіх навыкаў, з дапамогай якіх чалавек «адлюстроўвае» жыццё. Талент—гэта клапатлівы, зацікаўлены і нават натхнёны **роздум** пра чалавека свайго часу, пра тую, у прыватнасці, складаную асобу-характар, што ў сярэдзіне нашага стагоддзя імкнецца зразумець уласныя інтарэсы, уласнае сумленне і прывесці іх у згоду з патрабаваннямі грамадскіх узаемаадносін.

Герой сучаснай літаратуры можа быць падобным да таго ж Чацкага, які, паводле пушкінскіх слоў, «добры хлопец, што правёў накаторы час з вельмі разумным чалавекам (а менавіта з Грыбаедавым) і ўспрыняў ад яго думкі, дасціпныя жарты і сатырычныя заўвагі», — г. зн. з'яўляецца пераказчыкам аўтарскага «розуму». Але перавага будзе за тым літаратурным персанажам, які **самастойна** ўспрымае свет і падзеі з **вышынь** культурнага і інтэлектуальнага ўзроўню **свайго часу:** ён палітычна актыўны, удумлівы і сталы ў сваіх меркаваннях, па-сапраўднаму свабодны ў сваіх учынках, якія падказвае яму яго светапогляд. Ён — разумны і высакародны сын вялікага і пакутлівага стагоддзя. Яго розум — не сховішча розных прыгожых і змястоўных «дэфініцый», народжаных у хвіліны філасофскага настрою. Эмоцыі і інтэлект, разважанні і ўчынкі і ў такой асобы вельмі суладныя: яны не існуюць паасобку.

Адкрыццё хоць адзінага падобнага характару, як мне здаецца, — першая і, мабыць, галоўная адзнака таленту ў наш час. Ён, гэты характар, можа быць і станоўчым, і адмоўным, і вельмі абмежаваным у нечым, і разнастайным. Яму ўласцівыя і «духоўная слепата», і нечаканыя геніяльныя здагадкі і рашэнні. Такому герою нельга толькі рабіць аднаго: пачынаць усё быццам нанава, забываючыся на сваіх папярэднікаў.

Што я маю на ўвазе, калі гавару так? Вось што. Калі б мне прапанавалі вызначыць агульны пафас у паводзінах герояў савецкай літаратуры — і тых, каму выпадала «вандраваць па пакутах», і тых, хто добра разумеў, да чаго заклікаНы яны і па які бок барыкад іх месца, — дык я, мусіць, падкрэсліў бы матыў **пераадолення.** Шмат хто з літаратурных персанажаў А. Фадзеева і Я. Коласа, А. Талстога і К. Чорнага, лірычныя героі паэзіі Ул. Маякоўскага, шмат якія дзеючыя асобы п'ес А. Карнейчука і К. Крапівы, — нават самыя цэльныя натуры з іх — вядуць барацьбу на два франты. Яны імкнуцца пазбавіцца таго цяжару, што ўсклала на іх душы мінулае, адмовіцца ад забабонаў і прыгнечанасці, якія былі адбіткам супярэчлівых грамадскіх адносін пэўнай пары. Выказваюць яны гэта на ўвесь голас ці не, але персанажы нашай літаратуры па-свойму мараць быць **сапраўднымі** людзьмі. Каб самое слова Чалавек гучала горда і вымаўлялася «з вялікай літары»... Горш за ўсё тым з іх, хто адчувае сябе духоўным жабраком.

Станаўленне чалавечай асобы ў новым грамадстве — гэта і ёсць пераадоленне ў самім сабе такога жабрака, паслугача, уласніка, раба. Гэта і ёсць узбагачэнне чалавека.

Другі фронт акрэслены больш выразна: **«яны»** і **«мы»**. Два светы. Стары, той, што, адыходзячы, яшчэ адстрэльваецца і атручвае людскія душы матэрыяльнымі спакусамі і рознымі прыгожымі заклікамі. І свет новы, дзе непазнавальна змяніліся ўсе маральныя і сацыяльныя нормы чалавечых адносін. Яны варожыя назаўсёды, гэтыя два светы. Пераадолець уплывы старога і адстаяць праўду новага ў чалавечых сэрцах—такі абавязак бяруць на сябе ў клопатах пра заўтрашні дзень краіны і чалавецтва найбольш сумленныя і адданыя людзі.

ТАЛЕНТ падказвае мастаку, якія рысы чалавека робяць прывабнымі і пераканальнымі мастацкія вобразы герояў свайго часу. Калі правільна разумець сучаснае ў сённяшняй літаратуры, яно вымагае ад героя, створанага пісьменнікамі сярэдзіны нашага стагоддзя, каб ён быў, як гэта ёсць у жыцці, нашчадкам сваіх папярэднікаў і, ва ўсякім выпадку, умеў пераадольваць знешнія і ўнутраныя перашкоды на шляху да ажыццяўлення той мары аб сапраўдным чалавеку, з якой нарадзіўся на зямлі новы грамадскі лад. Ён **не мае права не ўмець** ваяваць і за сябе, і за свае ідэалы. Яму трэба быць здольным дзейнічаць.

...нянавісці злоснай назло,
На гібель варожасці лютай...

Увогуле такое патрабаванне — пісаць назло нянавісці, якая яшчэ ўзнікае паміж людзьмі, і на гібель варожасці, носьбітам якой выступае ўсё, што аджывае свой век на зямлі, — вельмі натуральнае. Бо ў барацьбе за Чалавека, за перамогу светлага ў кожнай асобе адлюстроўваецца не толькі гуманістычны «ўвогуле» пафас літаратуры, як гэта часамі здаецца таму-сяму. Гэта барацьба і ёсць «частка агульнапралетарскай справы», як настойліва падкрэсліваў Ул. І. Ленін.

Літаратура займаецца пошукамі героя, які б у супярэчлівых жыццёвых умовах увасабляў якасці сапраўднага чалавека, свабоднага ад чужых яму звычаяў і рысаў, тых, што называюць «плямамі мінулага».

Мне даводзілася сустракацца і размаўляць з чытачамі з ліку тых, хто знаходзіцца «паблізу ад літаратуры», якім надакучыла пэўная тэрміналогія. Паспрабуйце пры такім нават прыгадаць пра тыя ж «плямы мінулага», адразу на яго твары з'явіцца пагардлівая ўсмешка. Хто-небудзь з іх нават кіне, што чуў пра гэтыя «плямы» ў часе панавання культу асобы Сталіна, хоць тады і было гэтаму скептыку гадоў дванаццаць, не больш.

Можна, вядома, прыдумаць і знайсці новыя словы, каб імі называць тую або іншую з'яву. Але — навошта? Варта толькі не забывацца на першапачатковы сэнс нашай тэрміналогіі. Тады ў няспынным баі за цудоўнага Чалавека, які ідзе «на гібель варожасці лютай», літаратура будзе несці і парахавы дым, і пахі ўзаранай вясновай зямлі, а не выбухі тэатральнай піратэхнікі.

І калі ўжо мы загаварылі амаль што па-вайскоcваму, скажам: далёка не кожны літаратурны твор вядзе бой у першым эшалоне. Не ўсялякі аўтар мае гонар называцца безумоўна сапраўдным пісьменнікам-мастаком. У нас чамусьці так склалася, што мы часцей за ўсё ацэньваем раманы або апавяданні прыблізна наступным чынам: «значны ўклад у распрацоўку тэмы», «каштоўны ўклад» і нарэшце звычайны «ўклад, нягледзячы на недахопы».

А ёсць жа ў вялікай літаратуры так званая белетрыстыка. Гэта, як я разумею, не зусім адно і тое ж, што другарадная кніжная прадукцыя. На маю думку, да белетрыстыкі можна аднесці такія творы, якія пазбаўлены ўсяго **толькі адной адзнакі**—нечаканага **адкрыцця** мастаком нечага новага ў жыцці. Белетрыстыку чытаюць і з цікавасцю, і з адчуваннем эстэтычнай асалоды. Яна робіць сваю справу, але больш непрыкметна. Яе выхаваўчы ўплыў на чытача не выклікае сумнення. Але яна не ўзнімаецца да ўзроўню выдатных і заўсёды прывабных твораў, якія доўгі час, ад пакалення да пакалення, захоўваюць надзённае гучанне.

Каб не супрацьпастаўляць аднаго пісьменніка другому, паспрабую давесці сваю думку на прыкладах, якія дае творчасць аднаго і таго ж самага пісьменніка.

Якуб Колас стварыў непаўторны вобраз Андрэя Лабановіча, які зрабіўся для чытача сапраўдным мастацкім адкрыццём. Вясковы інтэлігент, герой трылогіі «На ростанях» увасабляе характар таго шукальніка праўды і ваяўнічага прыхільніка святла, які за асабістую крыўду лічыць нялюдскае жыццё людзей. Як вызваліць ашуканых лю-

(Працяг на 2-й і 3-й стар.).



Выдатныя майстры працуюць на Барысаўскім шклозаводзе імя Дзяржынскага—адным з перадавых прадпрыемстваў горада. З году ў год калектыў яго перавыконвае план выпуску прадукцыі. Прыгожыя вазы, бакалы, сервізы з каляровага шкла і крышталю карыстаюцца вялікім попытам у насельніцтва далёка за межамі нашай рэспублікі.

Добра працуе ў гэтыя дні і майстар жывапісу камсамолка Ларыса Жалязнякова, якую вы бачыце на гэтым здымку. Звыш шасці год працуе дзяўчына на прадпрыемстве. За гэты час яна скончыла дзесяць класаў школы рабочай моладзі. А ўвечары Ларысу можна бачыць на рэпетыцыі ў гарадскім Доме культуры, дзе яна з'яўляецца актыўнай удзельніцай народнага тэатра.

Тэкст і фота Л. ГІГЕВІЧА.

# ПАМЯЦІ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Ля маленькага тонучага ў зеляніне доміка на вуліцы Камунараў у Ялце днямі адбылася ўрачыстая цырымонія адкрыцця мемарыяльнай дошкі паэту Максіму Багдановічу.

У гэтым доме выдатны сын беларускага народа правёў апошнія дні свайго жыцця. Адсюль цяжка хворы ён апошні раз любаваўся цудоўным небам, маладымі кіпарысамі, блізкім Чорным морам. Таленавіты песняр беларускага народа памёр 25 мая 1917 года.

Некалькі гадоў назад на Паўднёвым беразе Крыма ў парку санаторыя «Беларусь» паэту быў устаноўлены помнік. А нядаўна адпачываючыя ў паўднёвабярэжных здраўніцах прыйшлі да гэтага доміка, каб ушанаваць памяць Максіма Адамавіча Багдановіча і прысутнічаць на адкрыцці мемарыяльнай дошкі.

Мітынг адкрыў намеснік старшыні выканкома Ялцінскага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных М. В. Каўроў. Ён гаварыў пра непарушную дружбу народаў нашай краіны, пра выдатнага паэта Максіма Багдановіча, чыя творчасць стала здабыткам усіх народаў, якія насяляюць нашу Радзіму.

З мемарыяльнай дошкі спадае пакрывала. На мармуры золатам зззяюць словы на рускай, украінскай і беларускай мовах:

«У гэтым доме правёў апошнія дні свайго жыцця (люты—май 1917 года) выдатны паэт Беларусі Максім Багдановіч».

Ад імя пісьменнікаў Савецкай Украіны выступіў Г. Пяткоў.

— Імя Максіма Багдановіча, — сказаў ён, — гэтак жа дарагое савецкім людзям, як імёны Някрасава і Шаўчэнкі, Данелайціса і Ахундава, Абая і Айні... Яго цудоўныя вершы і цяпер хвалююць людскія душы, клічуць да праўды і святла.

Яркае і вобразнае было выступленне беларускага празаіка Івана Мележа. Прамоўца гаварыў аб тым, што паэт пакідаў свет вясной, ён быў вельмі малады, поўны планаў, якім, на жаль, не давялося ажыццявіцца. Максім Багдановіч не сказаў усяго, што мог бы сказаць— яму было толькі 25 гадоў. І хоць ён пакінуў невялікую спадчыну, яна поўная нязгаснай любві да жыцця.

Драматург Віталій Губараў, які выступіў ад пісьменніцкай арганізацыі Расійскай Федэрацыі, падкрэсліў, што сёння сюды сабраліся прадстаўнікі розных літаратур многанацыянальнага Савецкага Саюза. Усе яны ўшаноўваюць памяць сына беларускага народа.

Пра кароткае, але палымянае жыццё паэта расказаў армянскі пісьменнік Гевург Севунц. Навучэнцы Жэня Уланава і Зіна Сінельнікава прачыталі выдатныя вершы Максіма Багдановіча.

Мітынг скончан. Ва ўрачыстым маўчанні прысутныя аддаюць даніну выдатнаму песняру, чые вершы, напісаныя шмат гадоў назад, прагучалі як прароцтва:

«Беларусь, твой народ дачакаецца
Залацістага, яснага дня.
Паглядзі, як усход разгараецца,
Сколькі ў хмарках залётных агня...»

Яснае сонца 45 гадоў назад узышло над нашай краінай. Яно свеціць нязгасным святлом народам нашай вялікай Радзімы.

ТАСС.

## НА РАДЗІМЕ Ц. ГАРТНАГА

Нядаўна ў Капылі адбыўся вялікі літаратурны вечар, прысвечаны надыходзячаму 75-годдзю з дня нараджэння Ц. Гартнага. Даклад аб жыцці і творчасці аўтара «Сокаў цаліны» зрабіў С. Александровіч. На вечары выступілі пісьменнікі П. Пестрак, М. Хведаровіч, А. Русак.

# САМАДЗЕЙНАСЦЬ ПА... ЗАГАДЗЕ

У зале Лагойскага дома культуры ідзе раённы агляд мастацкай самадзейнасці. На сцэне выступаюць спевакі, танцоры, дэкламатары. Але дзіўная з'ява: выступленні нікога не хвалююць, многіх самадзейных артыстаў гледачы сустракаюць холадна, без апладысментаў. Так цягнулася некалькі гадзін.

Нарэшце, у зале — ажыўленне. Месца на сцэне займаюць гурткоўцы калгаса «Праўда». Што яны пакажуць, чым парадуюць гледачоў? Раней гэты калектыў, якім кіравала Ала Даўжанок, карыстаўся поспехам. А цяпер? Замест апладысментаў у зале чуваць смех і нават непрыхільныя галасы. Калектыў не падрыхтаваўся да агляду, прыйшоў на канцэрт са старым рэпертуарам, у якім былі рэчы, што сваім мяшчанскім пошлым зместам выклікалі абурэнне прысутных. Чаго, напрыклад варта песня «Прыцемак», у якой ёсць такія радкі:

Поцелуй меня,
Я люблю тебя.
Поцелуй меня —
Не отравишься.

Трапіла гэтая пошласць на сцэну невыпадкова. Кіраваць калектывам нядаўна пачаў новы нявопытны чалавек. Яму не памаглі ні раённы Дом культуры, ні настаўнікі мясцовай школы, а сам ён не здолеў арганізаваць справу, як мае быць.

Такі нумар на раённым аглядзе быў не адзін. Выявілася і нізкая прафесіянальная падрыхтоўка выканаўцаў: некаторыя спевакі як след не засвоілі мелодыі песень, а некаторыя не ведалі слоў.

Не парадаваў сваім выступленнем на аглядзе і калектыў мастацкай самадзейнасці Кораньскага сельскага клуба, якім кіруе Ядвіга Гусакоўская. Раней ён выступаў не толькі на раённай, але і на рэспубліканскай сцэне. Песні ў выкананні самадзейных артыстаў неаднаразова перадаваліся па радыё.

— Лепшыя выканаўцы выехалі ў горад, — скардзіцца кіраўнік калектыву, — а новых пакуль што яшчэ няма.

А шкада. Калгаснікі любяць песню, яе тут можна пачуць і ўдзень і ўвечары. Але бяда ў тым, што са спевакамі ніхто не працуе.

Яшчэ адна бяда самадзейных калектываў — у іх мала дарослых людзей. У саўгасе «Янушкавічы» і калгасе імя Леніна ў самадзейных гуртках — палавіна вучняў сярэдніх і сямігадовых школ. Вельмі мала мужчынскіх галасоў. Пра беднасць рэпертуару сведчыць і тое, што на аглядзе, па сутнасці, не было ніводнага музычнага нумара.

Можа, Лагойшчына бедная на таленты і няма каму ўдзельнічаць у самадзейнасці? Не, яны ёсць і іх многа. Аб гэтым сведчыць выступленне калектыву раённага цэнтра. Доўгі час тут не было ніводнага гуртка. Але вось на чале раённага Дома культуры стаў тав. Варанцоў, і становішча адразу змянілася. Знайшліся і добрыя спевакі, і танцоры, і выканаўцы многіх іншых жанраў.

Гарачымі апладысментамі адзначылі прысутныя ў зале выступленне салістаў Анатоля Руткоўскага, Генадзя Акуловіча, дэкламатара Аляксандра Бальшакова. З добрым майстэрствам былі выкананы «Беларускі карагод» і сцэнка «На ферме».

Хто з лагайчан не памятае выступлення на раённай сцэне сям'і музыкантаў Бурковічаў з вёскі Калачы? Гэта быў цэлы ансамбль, які майстэрскай ігрой на цымбалах здзіўляў усіх слухачоў. Адзін з яго членаў Веніямін Бурковіч стаў вядомым у рэспубліцы цымбалістам, лаўрэатам міжнародных конкурсаў.

А сёстры Адамовіч з вёскі Корань? Іх вакальным здольнасцям могуць пазайздросціць многія. Няма такога гуртка ў раёне, дзе не чулі і не захапляліся іх галасамі. У самадзейным калектыве гэтых таленавітых спявачак цяпер не сустрэнеш, хор па сутнасці перастаў існаваць.

Устанавілася дрэнная практыка — дапасоўваць работу самадзейнасці да пэўнай даты, падзеі. Надыходзіць, скажам, якое-небудзь свята і па загадзе з раёна пачынаюць завіхацца ўсе культасветустановы. Звычайна створаныя наспех калектывы бываюць нежыццядзейнымі, пасля двух-трох выступленняў распадаюцца.

— Пайшлі на кансервацыю,— іранічна заўважаюць у вёсцы.

Іншы раз гэта «кансервацыя» бывае такой доўгай, што ў раёне зусім забываюць пра існаванне тых ці іншых калектываў.

Агляд мастацкай самадзейнасці ў Лагойску выявіў многа недахопаў. Хацелася б, каб раённы аддзел культуры, а разам з ім работнікі Дома культуры зрабілі з гэтага сур'ёзныя вывады. Трэба дамагацца, каб самадзейнасць у вёсцы весяліла і радавала людзей і не толькі ў часе аглядаў.

Б. САСНОЎСКІ.

